**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№4(668)**
**24 студзеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае









**Хрышчэнскі дзень на крыніцы святога Яна (Іаана Хрысціцеля) у Чарневіцкім прыходзе. Іерэй Міхаіл Каляда свеціць хрышчэнскай вадой усіх прысутных.** *Працяг тэмы на стар. 5. Фота Ул. Скрабатуна.*

















## Памёр археолаг і гісторык Міхась Чарняўскі

**Вядомы беларускі археолаг, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Міхась Чарняўскі памёр 20 студзеня на 75-м годзе жыцця, паведамляе сайт прыхільнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).**

Чарняўскі быў пахаваны 22 студзеня ў роднай вёсцы Круці Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Цырымонія развітання пройдзе ў Доме смутку на вул. Кабушкіна ў Мінску.

Міхась Чарняўскі вывучаў старажытную гісторыю Беларусі. Працуючы ў Інстытуце гісторыі АН БССР, уваходзіў у клуб патрыятычна настроенай інтэлігенцыі. У 1974 годзе быў звольнены за іншадумства. У 1990-2001 гадах быў загадчыкам аддзела каменнага і бронзавага вякоў Інстытута гісторыі. Уваходзіў у аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту, быў адным з заснавальнікаў БСДП (Грамада).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

## МНС інфармуе
**на 22.01.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 89;
Гібель людзей – 22, з іх 0 дзяцей;
Урон – 361.8 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 4;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 3 000 000 руб.

## Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь абвешчана тром работнікам Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету

**18 студзеня 2013 г.**
Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16.01.2013 №10рп абвешчана падзяка тром работнікам Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету:
■ Глушко В.М. - *начальніку Бабруйскай міжраённай інспекцыі;*
■ **Федзічкіну А.А.** - ***намесніку начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі;***
■ Супраненку В.І. - *дзяржаўнаму інспектару Пінскай міжраённай інспекцыі.*

Пастаўскі раён

# З басейна ў новую карчму

■ Кастусь Александровіч

**Самы заходні горад вобласці Паставы ў пачатку года абзавёўся адразу дзвюма значнымі аб'ектамі сацыяльнай сферы.**

Спачатку ў адным з буйнейшых мікрараёнаў райцэнтра ўрачыста адкрылі ў сасонніку побач з трасай на Браслаў драўляную карчму "Церамок". Прыдумаў і сам распрацаваў дызайн гэтага аб'екта прыдарожнага сервісу ў еўрапейскім стылі старшыня праўлення Пастаўскага райпо Рыгор Леўкавец. Новая карчма зроблена цалкам з экалагічна чыстай драўніны ў старажытным стылі, мае ўсяго пяць розных залаў на 90 пасадачных месц. Летам тут будзе і адкрытая летняя веранда па суседстве з вадаёмам. У меню карчмы – разнастайныя стравы, закускі і напоі для ўсіх узростаў, можна заказваць розныя калектыўныя мерапрыемствы, карпаратывы. Папулярнаць "Церамка" ў пастаўчан і гасцей горада вялікая, і папярэднія заказы распісаны на некалькі тыдняў наперад. У гэты ўтульны, быццам вялікі вясковы дом, падобны на панскую сядзібу, могуць прыходзіць і дзеці з бацькамі. Для самых маленькіх пастаўчан у студзені запрацаваў таксама і плавальны басейн пры дзіцячым садку № 1 "Крынічка". Каб спартыўны аб'ект адкрыўся, з мясцовага бюджэту пайшло больш 650 млн. рублёў. Цяпер 270 хлопчыкаў і дзяўчынак, якія выхоўваюцца ў ім, двойчы на тыдзень праводзяць заняткі на вадзе, вучацца плаваць, умацоўваюць здароўе. Такая магчымасць прадастаўляецца ў выхадныя дні за невялікую плату ўсім жадаючым сем'ям, маючым малых дзяцей.

Докшыцкі раён

# Драма ў лясным вальеры

■ Станіслаў Раманчук

**Сёлетняя зіма прынесла непрыемны сюрпрыз і нават бяду для аматараў жывой прыроды ў Докшыцкім раёне.**

На ўсю краіну стаў вядомы горкі факт масавай гібелі паблізу вёскі Камайск у прыродным вальеры плошчай 44 гектары большай часткі пагалоўя аленяў еўрапейскіх, якіх гадавалі ў мясцовай арганізацыі Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. У ім утрымлівалася больш сямідзесяці гэтых прыгожых жывёлін, якія неўзабаве павінны былі выпусціць на волю ў лясныя масівы Бярэзінскага краю. Работнікі паляўнічай гаспадаркі прыйшлі ў шок, калі ўбачылі столькі мёртвых туш жывёл, і адразу выклікалі міліцыю, спецыялістаў па ахове жывёльнага і расліннага свету. Сама гэта гучная гісторыя – загадкавая і пакуль правяраюцца некалькі версій: ад верагоднасці наўмыснага атраўлення да злачыннага недакорму, ад чаго мог здарыцца масавы падзёж. Аднак леташняя праверка ніякіх парушэнняў утрымання аленяў у вальеры не выявіла. На карысць другой версіі служыць той факт, што ў дзень трагедыі на снезу былі выяўлены незвычайныя сінія плямы. Ці маглі яны быць ядамі, ад якіх загінулі жывёлы, стане вядома пасля спецыяльнай экспертызы. Спецыялісты таксама павінны высветліць, ці былі ў кармах для жывёлін нітраты і нітрыты ў дозах, шкодных для іх здароўя. А магчыма алені захварэлі ад нейкай хваробы альбо небяспечнага віруса. У любым выпадку нічога ўжо не паправіць і відавочна, што людзі адказныя за тых, каго ўзялі пад сваю апеку.

Жывую прыроду трэба любіць і берагчы, калі мы хочам яе захаваць для нашых нашчадкаў.

Браслаўскі раён

# Сам сябе падпаліў

■ Чэслаў Якубовіч

**Хоць кожны год шмат гаворыцца аб мерах бяспекі і прымаецца шэраг мер па недапушчэнні продажы ў перыяд навагодніх і калядных святаў сумніўнай піратэхнічнай прадукцыі, але без розных здарэнняў усё роўна не абыходзіцца.**

Вось і сёлета ў Беларусі ў месцах масавых гулянняў і проста на вуліцы ад выбухаў петард і іншай піратэхнікі траўмы і апёкі атрымалі 11 грамадзян, сярод якіх на бальнічным ложку апынуліся і трое дзяцей. У гэту сумную статыстыку трапіў па ўласнай неасцярожнасці і адзін з жыхароў Браслава. Ён цяпер надоўга запомніць той няўдалы момант, калі ў сваім доме знайшоў піратэхнічную забаву, пра якую і забыўся. На жаль, тэрміны яе эксплуатацыі скончыліся, бо была набыта пару гадоў назад. Аднак цікавасць паглядзець, што будзе з ёй, узяла верх і мужчына падпаліў сваю знаходку. Небяспечны сплаў у адно імгненне абліў палаючай вадкасцю цела чалавека. У жаху браслаўчанін выбег на вуліцу і паспрабаваў, катаючыся па снезе, збіць полымя. У выніку гэтага недарэчнага здарэння гараджанін атрымаў шматлікія апёкі цела і вымушаны правесці курс лячэння. А вось на другім канцы вобласці, паблізу абласнога цэнтра жыхар вёскі Пуховічы добра папіваў на святы і пасварыўся з роднымі. Каб даказаць нешта ім, ён падпаліў кладоўку, аднак полымя перакінулася на хату. Вясковец спрабаваў самастойна справіцца з агнём, але атрымаў таксама апёкі, якія прыходзіцца цяпер лячыць урачам абласной клінічнай бальніцы

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 24.01.13 | | | | Пятніца 25.01.12 | | | | Субота26.01.13 | | | | Нядзеля 27.01.11 | | | | Пнд 28.01.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | * | * | * | * | * | | | | * | | * | | | | | | | | |
| Тэмпература | -11 | -9 | -8 | -11 | -15 | -15 | -12 | -17 | -17 | -16 | -14 | -18 | -20 | -18 | -14 | -15 | -16 | -13 | -9 |
| Ціск | 744 | 743 | 744 | 745 | 747 | 748 | 750 | 751 | 753 | 754 | 755 | 755 | 755 | 755 | 754 | 752 | 751 | 749 | 749 |
| Вільготнасць | 87 | 85 | 77 | 90 | 84 | 90 | 84 | 89 | 90 | 89 | 75 | 86 | 84 | 81 | 68 | 78 | 81 | 87 | 81 |
| Вецер м/сек | 2 З | 2 Пн-З | 5 Пн-З | 2 З | 3 З | 3 Пн-З | 4 З | 2 З | 2 З | 1 Пд-З | 4 З | 4 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 6 Пд | 6 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 6 Пд |

# Аб самым надзённым

## ІСТОТНЫЯ ПЕРАСТАНОЎКІ КАДРАЎ НА ФЛАГМАНАХ АЙЧЫННАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ ПАЦВЕРДЗІЛІ НАЯЎНАСЦЬ ПРАБЛЕМ

■ Аляксандр Цішкевіч

**За кароткі тэрмін патрэбна ў 2 разы мінімум падняць прадукцыйнасць працы, павялічыць канкурэнтназдольнасць выпускаемай прадукцыі МТЗ і МАЗа і адначасова пры гэтым знізіць вытворчыя выдаткі. Дарэчы, і на іншых нашых заводах, камбінатах, больш дробных вытворчасцях неабходна будзе весці мадэрнізацыю, пастарацца выпусціць болей інавацыйнай прадукцыі, якая знойдзе сваіх спажыўцоў. Іншага шляху для таго, каб палепшыць якасць і ўзровень жыцця нацыі, не зменшыць аб'ёмы ўзвядзення жылля, мець у дастатку харчавання – проста ў прыродзе няма.**

Хто з суайчыннікаў не ведае знакаміты лозунг яшчэ са сталінскіх часоў, што ў нас "кадры вырашаюць усё". Вось толькі ў самыя апошнія дні мінулага года многія беларусы ў перадnавагодняй мітусні і не заўважылі факт замены гендырэктараў буйнейшых нашых заводаў і аб'яднанняў. За трое сутак да наступлення новага 2013 года А. Лукашэнка сваім чарговым указам памяняў кіруючыя кадры на Мінскім трактарным і аўтамабільным заводах і на вытворчых аб'яднаннях "Гомсельмаш" і "Віцязь" у Віцебску, на якіх штаты работнікаў большыя за насельніцтва шэрагу сельскіх раёнаў у глыбінцы.

Дарэчы, у айчыннай навейшай гісторыі падобнага масавага кадравага пераструсу раней не было, калі ўлічыць яшчэ і снежаньскія перастаноўкі на прадпрыемствах дрэваапрацоўчай і лёгкай прамысловасці. Дарэчы, дзён за 10 да гэтага прайшло пасяджэнне прэзідыума ўрада Беларусі і глава Мінпрама РБ Д. Кацерыніч адрапартаваў, што заводы і фабрыкі галіны справіліся з большасцю даведзеных заданняў і забяспечылі рост вытворчасці на 107,3 % і нават станоўчае сальда знешняга гандлю за 11 месяцаў года ў памеры амаль 2,8 млрд. долараў (астатнія галіны гаспадаркі краіны не такія эфектыўныя на знешніх рынках).

А потым, як аказалася, кіраўнік дзяржавы ведае сапраўднае становішча спраў там і вельмі незадаволены тым, як выконваюцца ягоныя даручэнні па мадэрнізацыі вядучых прадпрыемстваў краіны, пошуку новых рынкаў збыту беларускіх тавараў. Вось гэтым фактарам і выкліканы такія змены кадраў, бо ў дадатак усяго сталі нарастаць і іншыя негатыўныя тэндэнцыі, працаваць даводзіцца з пачатку года сёлета ў складаных умовах. Па-першае, Беларусі да навагодніх свят так і не ўдалося дамовіцца з Расіяй і падпісаць баланс па пастаўках нафты на гэты год.

Няпростая эканамічная сітуацыя зараз шмат дзе ў свеце, сусветныя цэны, у тым ліку і на беларускую прадукцыю падаюць і ўжо праблема, як сёлета можна справіцца з задачай па экспарце – 60 млрд. долараў. Аднак ужо ў сярэдзіне студзеня нам трэба было заплаціць амаль 100 млн. USD першых плацяжоў па пагашэнні ранейшых крэдытаў толькі МВФ. Далей болей, грошай дзяржаве патрэбна траціць многа і закончылася леташняе "салодкае жыццё" пенсіянераў, калі ім 4 разы павышалі працоўныя пенсіі штоквартальна, у рэальным вымярэнні яны за год выраслі на 24 %. Сёлета такой магчымасці няма, хоць цэны на гэта не глядзяць, растуць бесперапынна.

Нездарма 2013 год назвалі Годам беражлівасці, паколькі інфляцыя з першых дзён студзеня зноў рванула наперад, хоць і летась і фінішавала на адзнацы амаль 22 %. Самае адчувальнае для людзей – прадукты харчавання ў мінулым годзе за 11 месяцаў, па дадзеных Белстата, падаражэлі на 22,9 %. А ў "лідарах", як ні дзіўна, найбольш выраслі санаторна-аздараўленчыя паслугі (на 86,6 %). Паправіць здароўе многім з нас стала проста не па кішэні, як і даць вышэйшую адукацыю дзецям, бо кошт вучобы ў ВНУ Беларусі за год вырас яшчэ на 69 %.

Тут як ні круці, а жыццё складанае і перамен да лепшага не чакаецца, бо нават Саўмін чакае росту цэн і сёлета мінімум на 12 %. Калі ўдасца справіцца з гэтай няпростай задачай па стрымліванні інфляцыі, то і нашы заробкі падымуцца не вышэй усяго на 12 % і большасць беларусаў будуць толькі гадаць, дзе тыя шчасліўшчыкі жывуць, хто рэгулярна мае ў кішэнях 500-доларавую зарплату ў эквіваленце. Не пазайздросціш у цяперашніх рэаліях і новапрызначаным упраўленцам на флагманах індустрыі, бо ў іх галава будзе балець штодзень з-за вырашаемых задач.

За кароткі тэрмін патрэбна ў 2 разы мінімум падняць прадукцыйнасць працы, павялічыць канкурэнтназдольнасць выпускаемай прадукцыі МТЗ і МАЗа і адначасова пры гэтым знізіць вытворчыя выдаткі. Дарэчы, і на іншых нашых заводах, камбінатах, больш дробных вытворчасцях неабходна будзе весці мадэрнізацыю, пастарацца выпусціць болей інавацыйнай прадукцыі, якая знойдзе сваіх спажыўцоў. Іншага шляху для таго, каб палепшыць якасць і ўзровень жыцця нацыі, не зменшыць аб'ёмы ўзвядзення жылля, мець у дастатку харчавання – проста ў прыродзе няма. Як спрацуе ў 2013 годзе рэальны сектар айчыннай эканомікі, так і мы з вамі будзем жыць далей.

## Дзень за днём

**Пасля двух месяцаў няпростых перамоў Беларусь узгадніла з Расіяй умовы паставак расійскай нафты толькі на 1-ы квартал 2013 года. Большасць экспертаў не верацць, што беларускім уладам удасца сёлета ўтрымаць сярэднегадавы курс долара на адзнацы 8950 рублёў. У многіх беларускіх ваенных самалётаў вычарпаны лётны рэсурс, з эксплуатацыі вывелі Су-24 і Су-27 з налётам болей 25 гадоў, грошай на закуп больш сучасных машын у краіны сёння няма. Колькасць пенсіянераў у краіне перавысіла 2,5 млн. чалавек. Урад РБ зменшыў квоты на вытворчасць гарэлкі і каньяку, аднак брэндзі вырашана вырабіць у 2,5 разы болей, чым летась.**

# Важнейшыя навіны свету

**Венесуэла.** З-за моцнага пагаршэння стану здароўя пасля 4-й па ліку анкалагічнай аперацыі ўлады адклалі інаўгурацыю хворага на рак 58-гадовага прэзідэнта Уга Чавеса.

**ЗША.** Суперсучасныя касмічныя тэлескопы агенцтва НАСА выявілі ў Сонечнай сістэме яшчэ мільярды планет, падобных на Зямлю, але там жыць нельга, бо горача, няма вады.

**Літва.** Новы прэм'ер-міністр Альгірдас Буткявічус пацвердзіў, што пакуль літоўскі ўрад канчаткова не вырашыў, ці будзе краіна будаваць новую АЭС замест закрытай станцыі.

**Сірыя.** Другі па ліку ваенны лётчык ВПС войск Б. Асада ўгнаў свой баявы самалёт-знішчальнік МіГ-21 у суседнюю Турцыю і папрасіў там палітычны прытулак.

**Грузія.** Новы прэм'ер-міністр Б. Іванішвілі заявіў, што краіна не вернецца ў СНД, але хоча палепшыць адносіны з усімі постсавецкімі дзяржавамі ў розных формах супрацоўніцтва.

**Кувейт.** Напярэдадні парламенцкіх выбараў суд пакараў 2 гадамі турмы яшчэ аднаго апазіцыйнага актывіста толькі за быццам абразу эміра краіны ў сетцы Інтэрнет.

**Карэя.** Кампанія LG распрацавала першай у свеце тэлевізары навейшага пакалення тэхналогіі OLED з экранам 140 сантыметраў, якасць малюнка ў 4 разы лепшая, чым у цяперашніх лідараў рынку.

**Індыя.** Адразу 5 паліцэйскіх адхілілі ад працы за бяздзейнасць пры расследванні зноў групавога згвалтавання і забойства 21-гадовай работніцы фабрыкі ў прыгарадзе Дэлі.

**Бразілія.** Ахоўнікі турмы ў горадзе Арапірака з доказамі злачынства злавілі … ката, які нёс на на сабе набор для дрэлі, нажоўку па метале для арганізацыі ўцёкаў з-за кратаў.

**ЗША.** У транспартнай экспазіцыі гістарычнага музея горада Спрынгсфільд з'явіўся аўто Rolls Royce, на якім амерыканец Ален Свіфт ездзіў найбольш у свеце, на працягу 78 гадоў.

**КНДР.** Па загадзе новага лідара Кім Чэн Ына ўсім дзецям напоўгаладнай краіны свету ва ўзросце да 10 гадоў падаравалі па традыцыі па 1 кг цукерак з нагоды дня яго нараджэння.

**Грузія.** Услед за Украінай краіна таксама вырашыла адмовіцца ад прызыву на ваенную службу, як пацвердзіў міністр абароны І. Аласанія, і пераходзіць на службу па кантракце.

**Бразілія.** Вечарам на пляжы ў Рыа-дэ-Жанейра вельмі моцнае цячэнне аднесла ў акеан 55-гадовага беларускага консула Сяргея Гурэўскага, дзе наш дыпламат трагічна загінуў.

**Італія.** На горным курорце ў Альпах упаў у бездань з вышыні 100 метраў снегаход з расійскімі турыстамі, адразу загінулі шасцёра з іх, двое былі вельмі цяжка пакалечаны.

**Швейцарыя.** На цырымоніі ў Цюрыху 4-ты раз запар лепшым футбалістам свету назвалі ігрока "Барселоны" і зборнай Аргенціны 25-гадовага Ліанеля Мессі, які забіў за сезон 91 гол.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Са скандалам звольнілі галоўнага ідэолага Дэпартамента фінрасследванняў Камітэта дзяржкантролю РБ Генадзя Прохарцава, у яго знайшлі від на жыхарства ў ЗША.

**Салігорск.** Да канца 2014 года, як упэўнены прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч, на ААТ "Беларуськалій" будзе створана вытворчасць складаных камбініраваных угнаенняў.

**Мінск.** Толькі слабаразвітым эканомікам, заявіў кіраўнік камітэта архітэктуры сталіцы А. Пятроў, характэрны перакос, што 20 % насельніцтва Беларусі жыве тут, бо вышэй заробкі.

**Брэст.** Абураныя заробкамі 300-400 тыс. рублёў работніцы "Дываноў Брэста" (канвеер летась стаяў 9 месяцаў) прарваліся да 1-га віцэ-прэм'ера РБ, каб ведаць, як жыць далей.

**Мінск.** Дырэкцыя сталічнай ЦЭЦ-5 не пацвердзіла, але і не абвергла інфармацыю пра аварыю і адрыў на прадпрыемстве лапаткі новай кітайскай турбіны вагой 400 тон.

**Мар'іна Горка.** На баявыя дзяжурствы ў 5-й асобнай брыгадзе войск спецаперацый заступіла новая сучасная бранетэхніка – хуткасныя аўтамабілі для груп разведкі.

**Мінск.** Вядомы эканаміст, дырэктар даследчага цэнтра BEROS П. Данейка заявіў, што сёлета Беларусь чакае плаўная дэвальвацыя нацвалюты з-за адмоўнага сальда гандлю.

**Магілёў.** У абласную бальніцу з цяжкімі траўмамі змясцілі двух школьнікаў, якіх на пешаходным пераходзе збіў на аўто нягоднік, уцёк з месца ДТЗ, але хутка быў затрыманы.

**Брэст.** На пешаходным пераходзе каля апоўначы 23-гадовы цвярозы вадзіцель збіў на BMW 535 двух дзяўчат, з іх адна трапіла ў кому, другая была цяжка паранена.

**Узда.** Пасярод ночы поўнасцю згарэла ў вёсцы Хатляны ўнікальная ў Беларусі драўляная праваслаўная царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы 1898 г. пабудовы, храм падпалілі.

**Мінск.** Былы прэзідэнт Акадэміі навук, 75-гадовы акадэмік Аляксандр Вайтовіч заявіў, што ў Беларусі зараз рэальнай палітыкі няма, ёсць толькі поўнае самаўладдзе.

**Слонім.** Міліцыя затрымала двух цыганак, якія падманулі вясковага пенсіянера, што ён атрымае 7 млн. руб. дапамогі ад прэзідэнта, абакралі дзеда, забралі і ваенныя ўзнагароды.

**Мінск.** На завяршэнне работ па стварэнні сёлета вяснлй новага інтэрнэт-партала кіраўніка РБ у рэспубліканскім бюджэце прадугледзілі 2,6 млрд. рублёў (болей 300 тыс. $).

**Гродна.** Ва ўзросце 87 гадоў памёр Р. Хосід, апошні жывы сведка зверстваў нацыстаў у мясцовым гетта, дзе гітлераўцы знішчылі амаль 30 тысяч яўрэяў, з іх выжылі менеей 200.

**Ваўкавыск.** Ужо другую па ліку ў раёне старажытную сядзібу рода Чачотаў-Бохвічаў прадалі расійскаму бізнесмену за 120 тысяч $, ён адкрые ў ёй агратурыстычны цэнтр.

# Віцэ-прэм'ер Тозік: заработную плату выхавальнікам будзем падвышаць за кошт бацькоў



■ БЕЛТА

**У Беларусі ёсць рэзервы для падвышэння зарплаты ў дашкольных установах адукацыі. Такое меркаванне выказаў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік. Ён бярэ ўдзел у выязным паседжанні калегіі Міністэрства адукацыі ў Магілёве.**

Часткова гэта праблема з 1 студзеня вырашана за кошт падвышэння стаўкі першага разраду. Хуткім часам таксама трэба разглядзець пытанне пра дыферэнцыяваны падыход у аплаце бацькамі ўтрымання дзіцяці ў дзіцячым садку. Бо ёсць дашкольныя ўстановы адукацыі, якія пабудаваны 40 гадоў назад, і там ёсць толькі неабходны мінімум для адукацыйнага і выхаваўчага працэсу, а ёсць дзіцячыя садкі з басейнамі, медыцынскімі цэнтрамі, трэнажорнымі заламі. «Я прапаную разглядзець пытанне пра тое, каб бацькі плацілі нейкі адсотак ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садку. На працягу найбліжэйшага часу мы вывучым гэта пытанне, і калі такі падыход апынецца рацыянальным, то будзем разглядаць яго ва ўрадзе», - сказаў Анатоль Тозік.

Яшчэ адзін рэзерв - гэта падвышэнне аплаты бацькамі харчавання дзяцей у дашкольных установах. На сённяшні дзень у цэлым утрыманне аднаго дзіцяці ў дзіцячым садку абыходзіцца ў месяц дзяржаве каля 1,2 мільёна беларускіх рублёў, а бацькі плацяць усяго 110-120 тысяч рублёў. Гэтага хапае толькі на аплату 40% харчавання. «Вядома, мы б жадалі, каб бацькі хоць бы аплачвалі поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, а хуткім часам трэба выходзіць хоць бы на 60-70% аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на падвышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць падвышэнню якасці адукацыйнага працэсу», - адзначыў віцэ-прэм'ер.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Па выніках года ААТ "Нафтан" з прыбыткам 3,373 трлн. рублёў, адзінае ў вобласці ўвайшло ў 30-ку самых прыбытковых і паспяховых айчынных кампаній.

**Бешанковічы.** У райцэнтры вядомая фірма "Белвест" адкрые сёлета свой філіял для 170 работнікаў па нарыхтоўках верху абутку, на праект пойдзе каля 1 млн. $ інвестыцый.

**Віцебск.** Сярэдняя зарплата па гораду перавысіла 4 млн. рублёў, аднак у палове мясцовых арганізацый і фірм яна значна ніжэйшая, горшы паказчык сярод абласных цэнтраў РБ.

**Новалукомль.** У год свайго 50-годдзя горад з насельніцтвам 16 тысяч чалавек па прапанове А. Косінца можа стаць цэнтрам Чашніцкага раёна, у райцэнтры жыве зараз менеей 9 тысяч.

**Гарадок.** Кіраўніцтва вобласці дабілася, што ў 2014 годзе райцэнтр стане сталіцай чарговых рэспубліканскіх "Дажынак", хоць гэты раён – адзін з адстаючых у развіцці АПК.

**Руба.** У гарпасёлку практычна разбурыўся закрыты шмат гадоў назад Дом быту, каб пастрыгчыся, яго жыхарам трэба ехаць у Віцебск, у бальніцы няма хірурга, іншых урачоў.

**Верхнядзвінск.** Ноччу адразу пасля перасячэння граніцы грузавым поездам латвійскія пагранічнікі ўбачылі, як з яго выкінулі 12 скрынь кантрабандных цыгарэт, груз затрымалі.

**Віцебск.** Суд пакараў 20-гадовую жыхарку абласнога цэнтра 8-мю гадамі пазбаўлення волі за распаўсюджанне 65 грам наркотыкаў амфетаміна, што лічыцца буйной партыяй.

**Паставы.** Гран-пры Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў "Палаючая зірка" прывезла дамоў з Кіева вучаніца 5-га класа дзіцячай школы мастацтваў Ліза Глазава.

**Ушачы.** Пад колы мікрааўтобуса "Форд", якім днём кіраваў вясковец, трапіла і атрымала цяжкія траўмы і памерла неўзабаве ў райбальніцы пенсіянерка з вёскі Ліпавец.

**Браслаў.** Пры райбібліятэцы адкрыўся яшчэ адзін аматарскі клуб па інтарэсах для падлеткаў "Арыенцір" і запрацаваў куток дадатковай інфармацыі для абітурыентаў.

**Бешанковічы.** Жыхар раёна толькі пасля шэрагу званкоў з прэс-службы Нацыянальных спартыўных латарэй змог паверыць, што выйграў у гэту латарэю 1 мільярд рублёў.

**Віцебск.** Сярод пяці лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" па выніках 2012 года быў і кіраўнік дабрачыннай каталіцкай рэлігійнай місіі "Карытас" дыяцэзіі Віталь Кульпекша.

**Талачын.** Фізкультурна-спартыўны клуб "Пульс" зноў заліў у гарпасёлку Коханава асветленую хакейную каробку, набыў яшчэ 21 пару канькоў для аматараў адпачынку.

**Наваполацк.** Пасля адстаўкі галоўнага трэнера ФК "Нафтан" І. Кавалевіча клуб пакінулі большасць вядучых футбалістаў, няпроста прыйдзецца новаму трэнеру Паўлу Кучараву.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# За незаконнае паляванне можна не толькі атрымаць прыстойны турэмны тэрмін, але і пазбавіцца аўтамабіля

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

З наступленнем моцных маразоў лёд на азёрах і рэках становіцца ўсё трывалей, водарасці пачынаюць актыўны працэс гніення, у вадзе рэзка скарачаецца колькасць кіслароду, якога не хапае падводным насельнікам. На асабліва дробных вадаёмах назіраецца замор рыбы, пры першых прыкметах недахопу кіслароду рыба імкнецца сысці з вадаёма ў рэкі, ручаіны, дзе больш кіслароду, і актыўна перасоўваецца ў пошуках такіх месцаў. Гэтым карыстаюцца шматлікія браканьеры, перакрываючы магчымыя шляхі выйсця рыбы з вадаёмаў. Возера Царкавішча паблізу в. Мосар Глыбоцкага раёна багата рыбай, аднак з-за невялікай глыбіні падчас моцных маразоў і снегападаў, у вадаёме назіраецца недахоп кіслароду, і рыба пачынае сыходзіць з возера па ручаіне ў раку Маргва, але тут яе сустракаюць нашы «галодныя» грамадзяне, перагароджваючы ручаіну разнастайнымі браканьерскімі снасцямі, бучамі, сеткамі, мярэжамі.

Так, 18 студзеня 2013 года каля 24 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраёнінспекцыі на ручаіне, якая злучае возера і раку Маргву, затрыманы два жыхары Глыбоцкага раёна, якія з дапамогай дзвюх бучаў перагарадзілі ручаіну і ажыццяўлялі здабычу рыбы, якая ішла ў раку, шанцаў у рыбы не было, але ў браканьераў таксама. Інспектары затрымалі парушальнікаў, зараз іх чакае разгляд у раённым судзе, а таксама важкі грашовы штраф.

Дзікія жывёлы з наступленнем маразоў таксама актыўна перасоўваюцца ў пошуках ежы, гэтым карыстаюцца і браканьеры. Паляўнічымі іх назваць нельга, бо страляюць яны ўсё запар, кабаноў, казуль, ласёў, нягледзячы на тое, што практычна ўсе дзікія жывёлы чакаюць нашчадкаў. Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі сумесна з арандатарамі паляўнічых угоддзяў, міліцыяй практычна штотыдзень затрымоўваюць грамадзян, яўных ахвотнікаў незаконна паспрабаваць свежага дзікага мяса. Асобных затрымоўваюць толькі напачатку палявання, калі грамадзяне толькі выехалі на незаконнае паляванне і стрэльбы ў іх зачахлёныя. Затрыманыя заўсёды тлумачаць, што яны проста выехалі пакатацца перад сном, але тады навошта вязеш зброю, гэта пытанне застаецца без адказу.

Ноччу 21 студзеня бягучага года работнікамі Глыбоцкай РАС РГТ «БТПР» і супрацоўнікамі міжраёнінспекцыі ў лясных паляўнічых угоддзях паблізу возера Акунёўскае затрыманы жыхар г. Глыбокае, грамадзянін П. Забароненых прылад палявання пры ім не выяўлена, толькі фара і акумулятар, аднак, што можа рабіць грамадзянін уначы ў лесе, тым больш, што затрыманы раней быў асуджаны за незаконную здабычу кабана, напэўна, урок не пайшоў празапас. Аматарам начнога незаконнага палявання хацелася б сказаць: не гуляйце з агнём, бо за незаконнае паляванне можна не толькі атрымаць прыстойны турэмны тэрмін, але і пазбавіцца аўтамабіля, працы і шматлікіх іншых выгод.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-28670 «кругласутачна», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# У беларускіх цягніках цяпер забаронена курыць, а бацькам з дзецьмі адменены льготы




**Унесены змены ў Правілы перавозак пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам агульнага карыстання ў Беларусі.**

Так, зменены тэрмін дзеяння разавых праязных дакументаў на цягнікі з ненумараванымі месцамі (гарадскіх і рэгіянальных ліній эканом-класа).

Гэтыя квіткі з новага года сапраўдныя да двух гадзін наступных сутак згаданай у ім даты здзяйснення паездкі.

За гэты перыяд праязны дакумент у абодва бакі дае права здзейсніць адну паездку туды і адну паездку назад ва ўказаным у білеце маршруце. Раней тэрмін дзеяння зваротных квіткоў складаў фактычна 2 сутак.

Акрамя таго, устаноўлены асобны парадак праезду і афармлення праязных дакументаў на цягнікі гарадскіх ліній.

Вызначана, што яны афармляюцца толькі ў білетных касах, размешчаных па маршруце руху дадзеных цягнікоў. Уведзены новы від абанементнага білета «гарадскія лініі», які выдаецца на дэкаду, месяц, два месяцы, на тэрмін да аднаго года. За дэкадны абанементны білет «гарадскія лініі» бярэцца плата з разліку 8 паездак «туды» і 8 паездак «назад», месячны — 22 паездкі «туды» і 22 паездкі «назад». Пры гэтым пасажыр мае права праязджаць па дадзеным абанементным квітку без абмежавання колькасці паездак у перыяд тэрміну дзеяння, у тым ліку і ў цягніках рэгіянальных ліній эканом-класа ў межах названага ў білеце тарыфнага пояса.

Неабходна адзначыць, што пастановай Мінэканомікі № 90 не прадугледжаны зніжкі для бацькоў з дзецьмі, а таксама для арганізаваных груп навучэнцаў, якія раней даваліся пры праездзе па тэрыторыі краіны з 1 кастрычніка па 30 красавіка.

Звязана гэта з стратнасцю перавозак пасажыраў у межах тэрыторыі Беларусі.

Забараняецца курэнне ва ўсіх цягніках, акрамя цягнікоў міжнародных зносін.

***rw.by***

# Некаторыя пытанні электрабяспекі

**А.С. Крывёнак,**
*дзяржінспектар Энерганагляду.*

Насычанасць электраабсталяваннем сучасных дамоў, дапаможных памяшканняў і будынкаў прывяла да звычкі ставіцца да гэтага электраабсталявання як да чагосьці штодзённага, не небяспечнага. Аднак гэта адчуванне зманлівае. Яно ўзнікае таму, што мантаж і выкарыстанне электраўстановак ажыццяўляецца ў большасці выпадкаў людзьмі, якія недастаткова выразна ўяўляюць прычыны і наступствы паражэння электрычным токам, якія ўзнікаюць з прычыны парушэння вызначаных правіл. Каб пазбегнуць гэтых непрыемнасцяў, пажадана ведаць самыя элементарныя палажэнні і правілы ўстройства, мантажу і бяспечнай эксплуатацыі электраўстановак. Можна прапанаваць наступныя правілы і рэкамендацыі па электрабяспецы для ўладальнікаў жылых дамоў, дач і г.д.

■ Часткі абсталявання, якія знаходзяцца пад напругай, павінны быць зачыненыя ці агароджаныя для прадухілення выпадковага да іх дакранання.

■ Павінна быць забяспечана належная ізаляцыя токаводных частак. У некаторых выпадках электраабсталяванне павінна мець падвойную ці ўзмоцненую ізаляцыю. Перыядычна павінен праводзіцца кантроль супраціву ізаляцыі.

■ Металічныя нятокавядучыя часткі электраабсталявання павінны быць заземленыя ці зануленыя ў адпаведнасці з ТКП 339-2011.

■ Усе электрычныя ланцугі павінны быць абаронены ад токаў кароткага замыкання. Абарона павінна быць калібраванай. Нельга замест стандартных плаўкіх уставак засцерагальнікаў ужываць адвольна ўзятыя абрэзкі дрота («жучкі»), дапушчаць злучэнне «напрамую» сілкавальнай лініі. У выпадку перагарання плаўкага засцерагальніка яго варта замяніць новым, а не напайваць ці намотваць кавалак дрота, які трапіў пад руку. Адсутнасць калібраванай абароны рана ці позна прывядзе да заўчаснага зносу ізаляцыі правадоў, а не выключана, што і да пажару.

# Абитуриент – 2013

**Для тех юношей и девушек, кто решил посвятить свою жизнь служению народу и уже определился с будущей профессией, будет интересна информация об учреждениях образования системы МВД.**

Порядок приема абитуриентов в учреждение образования «Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь»:

Абитуриенты, поступающие на дневную форму обучения, сдают три вступительных испытания в форме централизованного тестирования по:

- Государственному языку (белорусский или русский - на выбор);
- Математике;
- Обществоведению.

Зачисление в Академию МВД по всем формам обучения проводится по конкурсу в соответствии с Правилами приема. Конкурс среди абитуриентов проводится в рамках специальностей и специализаций - на факультет милиции, в рамках специальностей на следственно-экспертном факультете.

В 2012 году проходной балл по факультету милиции специальность правоведение 160 баллов (1:2,5), по специальности экономическое право - 204 (конкурс 1:4). По следственно-экспертному факультету по специальности правоведение - 145 (конкурс 1:1), по специальности судебная экспертиза - 222 (для юношей) и 304 (для девушек).

Срок обучения на очном отделении 4 года, на факультете подготовки иностранных специалистов Московского университета МВД России — 5 лет.

Курсанты 1-го и 2-го курсов проживают в общежитии, 3-го 4-го и 5-го курсов могут проживать дома (г.Минск), либо на квартире. Два раза в год (зимой, летом) курсантам предоставляется каникулярный отпуск продолжительностью, соответственно, 14 и 30 суток. В Академии работают спортивные секции, кружки художественной самодеятельности и народного творчества. Курсанты обеспечиваются достойной стипендией.

Порядок приема абитуриентов в учреждение образования «Могилевский колледж МВД Республики Беларусь»:

Колледж готовит юристов высшей квалификации по следующим специализациям: административно-правовая деятельность; оперативно-розыскная деятельность.

В колледж на обучение по дневной форме получения образования за счет средств бюджета на конкурсной основе принимаются граждане Республики Беларусь мужского пола, способные по своим личным, моральным и деловым качествам, состоянию здоровья выполнять задачи, возложенные на органы внутренних дел Республики Беларусь, имеющие общее среднее образование или профессионально-техническое образование с общим средним образованием либо среднее специальное образование и прошедшие профессиональный отбор.

В 2012 году проходной балл по специальности правоведение специализации оперативно-розыскная деятельность составил 145 баллов (конкурс 1:3), по специальности административно-правовая деятельность - 128 (конкурс 1:2,5).

По вопросам порядка и сроков предоставления документов необходимо уже сейчас обращаться в Глубокский РОВД (пл. 17 Сентября, 5) тел. 2-25-39, мтс 3054034, велком 3454034. Дополнительную информацию можно узнать на сайтах учреждений образования.



*Заместитель начальника Глубокского РОВД по идеологической работе и кадровому обеспечению* ***Шишко Игорь Петрович***

## *Нягледзячы на вельмі сцюдзёнае надвор'е*
# свята Хрышчэння Госпадняга на Глыбоччыне
## *запомнілася сваёй масавасцю*

■ **Уладзімір Скрабатун**

### Вытокі свята

Хрышчэнне Гасподняе — хрысціянскае свята, якое адзначаецца ў гонар вадохрышча Ісуса Хрыста ў рацэ Ярдан Іаанам Хрысціцелем 6 (19) студзеня. Падчас вадохрышча, паводле Евангелляў, на Ісуса сышоў Святы Дух у выглядзе голуба. Адначасова з гэтым Голас з Нябёсаў абвясціў: *«Гэты ёсць Сын Мой умілаваны, у Якім Маё спрыянне»*.

### Падзея свята

Паводле евангельскага аповяду, да Іаана Хрысціцеля, які знаходзіўся ля ракі Ярдан у Віфавары (Ін.1:28), прыйшоў Ісус Хрыстос (у 30-гадовым узросце — Лк.3:23) з мэтай прыняць вадохрышча. *(Дакладнае размяшчэнне Віфавары, магчыма, Бейт-Авара, не вызначана, з XVI стагоддзя ім лічыцца месца, дзе цяпер знаходзіцца манастыр Святога Іаана, у кіламетры ад сучаснай Бейт-Авары, прыкладна ў 10 км усходней Іерыхона).*

Іаан, які шмат прапаведаваў пра хуткае прышэсце Месіі, убачыўшы Ісуса, быў здзіўлены і сказаў: *«мне трэба хрысціцца ад Цябе, ці Ты прыходзіш да мяне?»*. На гэта Ісус адказаў, што *«належыць нам выканаць усякую праўду»*, і прыняў вадохрышча ад Іаана. Падчас вадохрышча *«адчынілася неба, і Дух Святы знійшоў на Яго ў цялесным выглядзе, як голуб, і быў голас з нябёсаў, які мовіў: Ты Сын Мой Умілаваны; у Табе Маё спрыянне!»* (Лк.3:21-22).

Такім чынам, пры ўдзеле Іаана ўсенародна было засведчана месіянскае прызначэнне Ісуса. Вадохрышча Хрыстова, якое адбылося тады, разглядаецца ўсімі евангелістамі як першая падзея ў яго грамадскай дзейнасці. Пасля вадохрышча Ісуса *«Іаан таксама хрысціў у Яноне, каля Саліма, таму што там было шмат вады; і прыходзілі [туды] і хрысціліся»* (Ін.3:23). Евангеліст Іаан звязвае з'яўленне першых з дванаццаці апосталаў менавіта з пропаведдзю Іаана Хрысціцеля: *«На іншы дзень ізноў стаяў Іаан і двое з вучняў яго. І, убачыўшы ідучага Ісуса, сказаў: вось Ягня Божы. Пачуўшы ад яго гэтыя словы, абодва вучні пайшлі за Ісусам»* (Ін.1:35-37).

Паводле евангельскага апавядання, пасля свайго вадохрышча Ісус Хрыстос, кіраваны Духам, пайшоў ў пустэльню, каб у адзіноце, малітве і пасце падрыхтавацца да выканання місіі, з якой ён прыйшоў на зямлю. Ісус сорак дзён *«быў спакушаны ад д'ябла і нічога не еў у гэтыя дні, а па сканчэнні іх напрыканцы горача зажадаў»* (Лк.4:2). Тады прыступіў да яго д'ябал і трыма спакушэннямі паспрабаваў спакусіць яго на грэх, як усякага чалавека.



Глыбокае, 19.01.2013 г. . Хрышчэнскае купанне на возеры Бяглец. На вуліцы – -22 С$^0$.

**Некаторыя спадары ў Хрышчэнскі дзень умудрыліся пакупацца двойчы: на возеры Бяглец у Глыбокім і на крыніцы святога Яна ў Чарневічах. Ну, і хто гэта? Зразумела, Кастусь Бахір, марафонец! Вось з ім аўтар гэтых радкоў і накіраваўся ў Чарневічы.**

Звярнуўшы у Празароках улева – на Чарневічы – нам падалося, што на свята мы ўжо спазніліся. Адтуль штораз, насустрач, ехала чарада легкавых машын. Адкуль жа, як не з крыніцы!

– Ну, нічога, пакупаемся, вады набярэм,– кажа калега.

Як сталася – прыехалі самы раз, а 13$^{30}$ яшчэ доўжылася набажэнства. Што ўразіла: вялікая колькасць аўта і мікраўтобусаў. А народу! Здавалася б, што глыбачанаў тут, традыцыйна, павінна было б быць вельмі шмат. Не! Адзінкі! Пасля ўладкавання на Хрышчэнне купальні на Бегляцы, цікавасць глыбачанаў да вандроўкі ў Чарневічы значна знізілася. Крыніца святога Яна цяпер сталася месцам масавага паломніцтва палачанаў і навапалачанаў. І ў гэты дзень колькасць прысутных на святаянскай крыніцы была ў разы большай, чым на аналагічным мерапрыемстве на возеры Бяглец. Пры тым, што народ на крыніцы пастаянна мяняўся: адны, набраўшы бідоны вады, – з'язджалі, на іх месца – зноў прыязджалі іншыя.



Чарневічы, 19.01.2013. Іерэй Міхаіл Каляда праводзіць урачыстае набажэнства.

Звяртае на сябе з году ў год пэўная тэндэнцыя: штораз прыязджае больш моладзі. Так! Адрэналіну тут можна атрымаць зашмат! Праўда, што тут грэх утойваць, многія для смеласці прымаюць перад купаннем «франтавыя сто грамаў».

Ёсць шмат крыніцаў у нашым краі, але, бадай што, усе яны замярзаюць у лютыя маразы, не замярзае толькі адна – крыніца святога Яна. Між іншым, вада крыніцы ўтрымлівае 450,33 мг/л гідракарбанату, 7,44 – хлору, 6,72 – сульфату, 2,34 – нітрату, 83,37 – кальцыю, 33,66 – магнію, 16,5 – натрыю, 2,35 – калію, 0,15 – жалеза, агульная мінералізацыя 602,86 мг/л, pH – 7,99. Яна празрыстая, без колеру і паху, без асадкаў.

Мясцовыя жыхары лічаць, што гэтая вада мае цудадзейную сілу, лекавыя вартасці, можа доўга захоўвацца і не псавацца.

**Настаўнік Зябкаўскай БШ Юрый Пілімон (справа) з-за сваёй занятасці ў школе не змог паехаць на крыніцу святога Яна. Аднак папрасіў нас зваротна наведаць Зябкі і засведчыць той факт, што і яму не слаба ў 15 градусную сцюжу выліць на сябе два вядры ледзяной вады.**



Вельмі страшна ў першы раз акунуцца ў сцюдзёную святаянскую ваду, асабліва тады, калі тата ўхутаны ў цёплы пухавік, а на вуліцы – -15С°.



Чарневічы, крыніца св. Яна (Іаана Хрысціцеля). Іерэй Міхаіл Каляда асвячае крынічную ваду ў прысутнасці шматлікай грамады.

# Захаваем прыродныя багацці для нашых нашчадкаў!

**Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь з'яўляецца адмыслова ўпаўнаважаным дзяржаўным органам, падпарадкаваным Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, які здзяйсняе ў межах сваёй кампетэнцыі дзяржаўны кантроль за аховай і выкарыстаннем дзікіх жывёл, што адносяцца да аб'ектаў палявання і рыбалоўства, драўняна-хмызняковай расліннасці і іншых дзікарослых раслін, лясного фонду, зямляў пад дзікарослай драўняна-хмызняковай расліннасцю (насаджэннямі), забеспячэннем рыбаводнымі арганізацыямі захаванасці рыбы, якая ўтрымліваецца ў сажалках гэтых арганізацый.**

27 ñòóäçåíÿ, 10 ãàäî¢ òàìó, áûëà ñòâîðàíàÿ Äçÿðæà¢íàÿ ³íñïåêöûÿ àõîâû æûâ¸ëüíàãà ³ ðàñë³ííàãà ñâåòó ïðû Ïðýç³äýíöå Ðýñïóáë³ê³ Áåëàðóñü

■ **Ул. Скрабатун**

Ужо як дзесяць гадоў у нашым краі дзейнічае Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету. Нашая газета амаль ад самага пачатку паўстання Інспекцыі плённа супрацоўнічае з ёй. Самы яскравы прыклад – не адна сотня артыкулаў, якія напісаныя супрацоўнікамі Інспекцыі і апублікаваныя ў газеце "Вольнае Глыбокае". Артыкулы інспектараў паказваюць усю паўнату карціны па ахове жывёльнага і раслiннага свету ў глыбоцкапастаўскім рэгіёне.

Калі сабраць усе матэрыялы, якія напісаў, напрыклад, Аляксей Віктаравіч Протас, начальнік інспекцыі, то атрымаецца вялікі і захапляльны дэтэктыўны раман. У якім, часам, сустракаюцца такія трапныя выразы: "браканьеры расставілі сеткі, але не чакалі, што самі патрапяць у сеткі, расстаўленыя інспекцыяй". Ну, а ўжо колькі гумару! Я, напрыклад, і некаторыя іншыя асобы, якія маюць дачыненне да "Вольнага Глыбокага", да сённяшняга дня ўспамінаем з усмешкай матэрыял, які быў апублікаваны пару гадоў таму. Там Аляксей Віктаравіч зрабіў спасылку на Статут (Асноўны Закон) Вялікага Княства Літоўскага, па якому за браканьерства сурова каралі: за першы раз – хвасталі пугамі, за другі – адразалі вуха, за трэці – каралі смерцю. Выснова: каб мы сёння жылі па законах ВКЛ, то вялікая частка нашых суграмадзяў хадзіла б без аднаго вуха, а можа і без двух. Гумар гумарам, але гэты гістарычны прыклад, безумоўна, прымусіў многіх нядобрасумленных рыбаловаў-аматараў, якіх у нас клічуць браканьерамі, задумацца.

Увогуле, матэрыялы, якія напісаныя супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспецыі аховы жывёльнага і раслiннага свету – адны з самых чытаемых у нашай газеце. А тут яшчэ ў пытаннях аховы жывёльнага і раслiннага свету ёсць шмат нявырашаных праблемаў. Гэта падштурхоўвае да зваротнай сувязі з боку чытачоў, найперш рыбаловаў-аматараў, арандатараў вадаёмаў, зборшчыкаў ягад, простых аматараў прыроды. Двойчы ў Гарадскім цэнтры культуры адбываліся сакавіцкія сустрэчы рыбаловаў-аматараў і арандатараў вадаёмаў з супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспецыі аховы жывёльнага і раслiннага свету. Гэтыя сустрэчы выклікалі вялікі грамадскі рэзананс. І, дарэчы, гэтыя сустрэчы паказалі, што інспекцыя можа не толькі караць вінаватых, але ўганароўваць каштоўнымі прызамі і граматамі рыбаловаў, арандатараў вадаёмаў, журналістаў за прыклады дбайных адносінаў да нашай прыроды. Некаторыя ж пасля такіх сустрэчаў станавяцца аднымі з аўтараў нашай газеты, Алесь Гай, напрыклад.

Што тут казаць… Многія нашыя рыбаловы-аматары паводзяць сябе нібыта як акупанты на роднай зямлі. Быццам тут – тэрыторыя ворага і трэба як мага больш яму нашкодзіць – засмеціць тэрыторыю: лядовы покрыў азёраў і рэк, берагі вадаёмаў. Нават вядомае ў цэнтры горада возера Кагальнае – узімку і ўлетку – пераўтвараецца ў месца масавых папоек: процьма шкляных і пластыкавых бутэлек, папера, рэшткі ежы - і ўсё гэта на лёдзе і на берагах вадаёма. Зразумела, на возеры да кожнага рыбалова-аматара інспектара не паставіш, але, каб інспекцыя не рабіла штораз рэйды і не звяртала на тое ўвагу рыбаловаў-аматараў, не складала пратаколы, то мы даўно жылі б сярод сметнікаў.

Гадоў пяць таму Глыбоцкай міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і раслiннага свету было прапанавана аўтару гэтых радкоў паехаць разам у рэйд па абшарах Галубіцкай пушчы ў месцы масавага збору ягад брусніц. Для інспекцыі, зразумела, вынік быў у выглядзе дзясятка пратаколаў, якія сталіся складзеныя на парушальнікаў правілаў збору ягад. А вось для мяне, як краязнаўцы, вынік быў не толькі ў выглядзе артыкула, які публікаваўся ў "Вольным Глыбокім" і ў "Нашай Ніве", вынікам найперш сталася тое, што я ўпершыню ўбачыў Галубіцкую пушчу ва ўсёй яе паўнаце і разнастайнасці. Вынік настолькі адчувальны да сённяшняга дня, што на адлегласці многіх гадоў у сваіх публікацыях аўтар гэтых радкоў усё яшчэ скарыстоўвае досвед і веды з таго памятнага рэйду. Для прыкладу – у адной з апошніх публікацый "Модэль Бор".

Адзін з нашых аўтараў Алесь Гай неяк паведаміў: "Трэба сказаць вялікі дзякуй Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету, а найперш яго кіраўніку Аляксею Віктаравічу Протасу, за тое што навёў відавочны парадак на нашых вадаёмах і лясах. Раней як было? Нахабна, сярод белага дня, браканьеры ў цэнтры горада на возеры Кагальным ставілі сеткі! Павыбівалі электравудамі рыбу ў шматлікіх азёрах, што было адчувальна потым не адзін дзесятак гадоў. Нармальныя рыбаловы і аматары прыроды усё разумеюць і падтрымліваюць інспекцыю ў іх намаганнях па навядзенні парадку і захаванні прыродных рэсурсаў нашага краю!"

Падсумоўваючы, хацелася б пажадаць Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету поспехаў у іх цяжкай, але такой неабходнай нашай краіне працы, а таксама пажадаць, каб штораз болей знаходзілася валанцёраў – дабрахвотных памочнікаў у барацьбе за чысціню, прыгажосць, багацце нашай прыроды!

# У выпадку замору неабходна будзе дапамога грамадзян

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету звяртае ўвагу, што ў наш час на вадаёмах раёна назіраецца пагаршэнне ўмоў зімоўкі рыбы. Гэта звязана з рэзкім паніжэннем сярэднясутачных тэмператур, таўшчынёй лёду, якая павялічваецца, і багатым снежным полагам. На асобных водных аб'ектах могуць адзначацца перадзаморныя з'явы. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна гэта азёры: Царкавішча, Гулідаўскае, Алойсберг, Вялікае, вадасховішча «Азерцы» і некаторыя іншыя.

У мэтах прадухілення ўрону, які наносіцца рыбным рэсурсам, міжраённая інспекцыя звяртаецца да рыбаловаў-аматараў з просьбай прыняць актыўны ўдзел у высечцы майн і палонак для насычэння вады кіслародам.

Арандатарам рыбалоўных угоддзяў, каб не дапусціць гібелі рыбы, рэкамендуецца наладзіць перыядычны кантроль (не меней аднаго разу ў 10 дзён) за ўтрыманнем растворанага кіслароду. Пры зніжэнні ўтрымання растворанага кіслароду ў вадзе да 3,0 мг/л, неабходна наладзіць устройства майн, усталёўку трысняговых снапоў у прасечаныя лункі, расчыстку лёдавага поля ад снега для ўзмацнення фотасінтэзу. Пры немагчымасці прадухілення замору – арганізаваць максімальны адлоў рыбы з прыцягненнем усіх наяўных дазволеных прылад лоўлі. На азёрах Царкавішча і Гулідаўскае арандатары гэтых вадаёмаў гатовыя выканаць неабходныя ўмовы, але ў выпадку замору неабходна будзе дапамога грамадзян.

Пры неабходнасці, у выпадку ўзнікнення заморных з'яў рашэнне раённага выканаўчага камітэта па ўзгадненні з міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і раслiннага свету, раённай інспекцыяй аховы прыродных рэсурсаў і навакольныя асяроддзя, часова, для грамадзян можа быць усталяваны парадак і ўмовы вылоўлівання рыбы без абмежавання колькасці, вагі рыбы і яе памераў, але толькі дазволенымі прыладамі рыбалоўства.



Вельмі вялікая просьба да ўсіх рыбаловаў-аматараў: у выпадках выяўлення перадзаморных ці заморных з'яў на якім-небудзь з вадаёмаў раёна неадкладна інфармаваць міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету і раённы выканаўчы камітэт. У той жа час звяртаемся яшчэ раз да рыбаловаў: не карыстацца чуткамі пра ўнясенне зменаў у Правілы рыбалоўства. Апошні час пачасціліся выпадкі затрымання грамадзян за лоўлю рыбы непадпісанымі жарліцамі, з перавышэннем дазволенай колькасці жарліц. Парушальнікі сцвярджаюць, што яны бачылі і чулі, што ўнеслі змены ў правілы пра тое, што падпісваць жарліцы не трэба. Жарліцы павінны быць падпісаныя, норма вылоўлівання рыбы на аднаго чалавека – 5 кг. Якіх-небудзь зменаў у Правілы рыбалоўства не ўносілася, па любым пытанні Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю па тэлефонах: 8-2156-28670 - кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.

ДАВЕДКА

# Укараняюцца новыя формы і метады папярэджання рэцыдыўнай злачыннасці

**Глыбоцкім РАУС з зацікаўленымі ведамствамі раёна праводзіцца сталая праца па прафілактыцы здзяйснення злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў, у тым ліку па папярэджанні рэцыдыўнай злачыннасці, п'янства сярод насельніцтва.**

Аналіз стану законнасці і правапарадку на тэрыторыі раёна сведчыць, што праваахоўнымі органамі праведзена значная праца па ўмацаванні законнасці, абароне канстытуцыйных правоў грамадзян, грамадскіх і дзяржаўных інтарэсаў.

З мэтай зніжэння ўзроўню рэцыдыўнай злачыннасці супрацоўнікамі РАУС праводзіцца розныя мерапрыемствы прафілактычнага характару, ажыццяўляюцца штомесячныя праверкі раней асуджаных асобаў па месцы жыхарства і працы ўчастковымі інспектарамі міліцыі, укараняюцца новыя формы і метады папярэджання рэцыдыўнай злачыннасці.

Паводле плану асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў УУС Віцебскага аблвыканкама з мэтай прафілактыкі рэцыдыўнай злачыннасці, папярэджання злачынстваў і правапарушэнняў з боку асобаў, якія знаходзяцца на ўліку ў крымінальна-выканаўчых інспекцыях вобласці з 14 па 21 студзеня 2013 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна былі праведзеныя адмысловыя комплексныя мерапрыемствы (СКМ) «Нагляд» з удзелам усіх службаў і падраздзяленняў Глыбоцкага РАУС і з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага аддзела Дэпартамента «Ахова» МУС Рэспублікі Беларусь,

Падчас правядзення дадзенага мерапрыемства былі падвергнуты праверцы ў вячэрні і начны час сутак па месцы жыхарства ўсе асобы, што знаходзяцца на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, такія, як асуджаныя, што адбываюць пакаранні па прыгавору судоў не звязаныя з пазбаўленнем волі і тых, якія маюць не знятую і не згашаную асуджанасць пасля адбыцця пакарання і вярнатння з месцаў пазбаўлення волі, якія знаходзяцца на прафілактычным уліку. Усяго наведана па месцы жыхарства 320 асобаў дадзенай катэгорыі. За парушэнне ўмоў і парадку адбывання пакарання ўзбуджана крымінальная справа па арт. 416 КК РБ у адносінах асуджанага С., які адбываў пакаранне па прыгавору суда Глыбоцкага раёна ў выглядзе выпраўленчых прац. За парушэнне ўмоў прэвентыўнага нагляду ў адносінах С., які знаходзіцца на ўліку, узбуджана крымінальная справа па арт. 421 КК РБ. Выяўлена 5 парушэнняў прэвентыўнага нагляду, на што складзена 4 адміністрацыйных пратаколы па арт. 24.12 КоАП РБ. Шэсць ўліковых пастаўлена на ўлік да лекара нарколага і праходжання медыцынскай камісіі для накіравання ў лячэбна-працоўны прафілакторый (ЛПП). Падчас правядзення дадзеных мерапрыемстваў злачынстваў на тэрыторыі Глыбоцкага раёна асобамі, якія знаходзяцца на ўліку, дапушчана не было.

*Начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС маёр міліцыі Пятух С.П.*

